№ 48(203)
8 – 14 лістапада 2001 г.

Заснавана ў ліпені 1997 г.

http://kapp.nsys.by

# рабочы

ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА



## Падтрымаем студэнтаў!

Выканаўчае бюро Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый выказвае пратэст з нагоды падрыхтоўкі Міністэрствам юстыцыі працэдуры ліквідацыі адзінай альтэрнатыўнай студэнцкай арганізацыі ў Беларусі – Задзіночаньне беларускіх студэнтаў. 18 кастрычніка 2001 года старшыня Рады ЗБС Крысціна Вітушка была запрошана на сустрэчу ў Міністэрства юстыцыі. У сустрэчы бралі ўдзел начальнік Упраўлення грамадскіх аб'яднанняў М. Сухінін, міністр юстыцыі В. Галаванаў і супрацоўнік Упраўлення грамадскіх аб'яднанняў А. Харытон. Чыноўнікі міністэрства паведамілі Крысціне Вітушка аб тым, што рыхтуюць працэдуру ліквідацыі арганізацыі ў судовым парадку. 10.09.2001 г. Радзе ЗБС было вынесена чарговае папярэджанне за тое, што "назва арганізацыі на паштовай скрыньцы ў пад'ездзе і над уваходам у офіс не адпавядае зарэгістраванай назве арганізацыі ў Міністэрстве юстыцыі".

Выканаўчае бюро Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый лічыць, што пераслед гэтай моладзевай арганізацыі з боку Міністэрства юстыцыі носіць палітычны характар і звязаны з актыўнай дзейнасцю ЗБС у мабілізацыйнай кампаніі "Выбірай" падчас прэзідэнцкай кампаніі гэтага года. Варта нагадаць, што гэта не першы выпадак ціску на арганізацыю. На працягу мінулага і гэтага года на сябраў ЗБС і персанальна на старшыню Рады Крысціну Вітушка аказваўся ціск з боку КДБ, рабіліся спробы вярбоўкі сябраў аб'яднанняў, аказваўся ціск па месцы вучобы. Такім чынам Міністэрства юстыцыі чарговы раз выконвае палітычны заказ уладаў. Выканаўчае бюро Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый заклікае ўсіх сваіх партнёраў і сябраў падтрымаць адзіную недзяржаўную арганізацыю з дванаццацігадовай гісторыяй у цяжкую хвіліну і накіраваць лісты пратэсту на адрас Міністэрства юстыцыі:

**220004, Беларусь, Мінск, вул. Калектарная, 10, Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, тэл. 220-86-87.**

*Выканаўчае бюро Асамблеі*
*Мінск,01.11.2001 г.*


*Талака ў Курапатах.*

## НІШТО НА ЗЯМЛІ НЕ МІНАЕ БЯССЛЕДНА

### З 28 КАСТРЫЧНІКА ПА 4 ЛІСТАПАДА НА БЕЛАРУСІ ПРАХОДЗІЎ ТЫДЗЕНЬ ПАМЯЦІ

**На працягу сямі дзён у розных кутках нашай краіны звычайныя людзі аддавалі даніну павагі ўсім бязвінна загінуўшым ад рук бальшавіцкіх ці нямецкіх катаў, ушаноўвалі памяць сваіх продкаў. Наш каляндар, вядома, не поўны. Шмат пра якія падзеі нам даведацца да цяперапшняга часу не ўдалося. Знаёмім нашых чытачоў з тымі звесткамі, якія мы сабралі дзякуючы ўласным намаганням і маніторынгу розных сродкаў масавай інфармацыі, у першую чаргу радыё "Свабода" і радыё "Рацыя".**

**28 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ**

❐ Жыхары **сталіцы** адзначылі Дзень памяці продкаў, Дзяды, памінальным шляхам да Курапатаў. Да месца масавых пахаванняў ахвяр сталінізму сотні грамадзян прайшлі 10-кіламетровым шляхам ад парка Чэлюскінцаў, дзе таксама хавалі расстраляных у перыяд сталінскіх рэпрэсій. Сёлетні шлях да Курапатаў ладзіўся ў час, калі мемарыял знаходзіцца пад пагрозаю знішчэння дзеля будаўніцтва кальцавой дарогі.

Да пачатку жалобнага мітынгу перад Крыжом Пакутаў адбылося набажэнства ў памяць бязвінна загінуўшых. Адправілі службу святар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Ленанід Акаловіч і пробашч рымска-каталіцкай грамады святога Яна Хрысціцеля ксёндз Ігар Лашук.

Арганізатарам акцыі выступіла Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ.

❐ У **Магілёве** ля крыжа, усталяванага на месцы расстрэлу соцень рэпрэсіраваных магілёўцаў, прайшла Хвіліна памяці і жалобы па бязвінных ахвярах савецкага рэжыму.

Менавіта тут, у кар'еры ля Магілёўскага мясакамбіната, у 1987 г. дзеці знайшлі сківіцу з залатымі зубамі. Грамадскае аб'яднанне «Мартыралог Беларусі» ініцыявала расследаванне, якое высветліла, што ў гады рэспрэсій на гэтым месцы праводзіліся масавыя расстрэлы. Раскопкі выявілі рэшткі прыкладна сотні чалавечых цел з кулямі ў патыліцах. Знайшліся і сведкі страшных падзей, якія жылі непадалёк ад кар'ера.

Напачатку 1990-х гг. на гэтым месцы, якое назвалі магілёўскімі Курапатамі, паставілі вялізны крыж, які, на жаль, так і не быў заменены на помнік.

Людзі, якія прыйшлі на Дзяды да крыжа ўшанаваць памяць бязвінных ахвяр савецкага рэжыму, трымаючы пад дажджом свечкі, прамовілі свае кароткія словы і схілілі галовы ў хвіліне маўчання.

Хвіліну памяці і жалобы правялі сябры Магілёўскага моладзевага аб'яднання «Паходня» пад кіраўніцтвам Сержука Гіркіна.

**30 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК**

❐ У гэты дзень у **Ганцавічах, Брэсце, Рэчыцы, Гомелі, Магілёве, Талачыне, Барысаве** настаўнікі гісторыі, сябры Беларускай арганізацыі працоўных жанчын (БАПЖ), праводзілі ўрокі памяці. Метадычныя распрацоўкі ў дапамогу выкладчыкам прадаставіў гісторык Ігар Кузняцоў. "Вельмі ўдзячна спадару Кузняцову за распрацаваныя матэрыялы, — выказала яму сваю падзяку праз нашага карэспандэнта настаўніца гісторыі Ганцавіцкай гімназіі, старшыня адпаведнай рэгіянальнай філіі БАПЖ Надзея Петручэня. – Якраз у гэты навучальны перыяд вучні 9-х і 11-х класаў праходзяць тэму "Савецкае грамадства 30-х гадоў", а па гісторыі Беларусі — "Масавыя рэпрэсіі. Усталяванне таталітарнага рэжыму ў 20—30-я гады". 22 лістапада адбудзецца раённая нарада настаўнікаў гісторыі. Я абавязкова прапаную гэтыя матэрыялы сваім калегам".

❐ Сябры Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўсклалі кветкі да магіл Янкі Купалы і Якуба Коласа.

❐ Сябры грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне Курапатаў» у міжнародны Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій правялі жалобныя памінанні ў Курапатах і парку Чэлюскінцаў **(Мінск)**, у Міхайлаўскім саборы **(Мазыр)**. Як паведаміла старшыня Мазырскай філіі Беларускай арганізацыі працоўных жанчын (БАПЖ) Таццяна Піліпончык, служачыя Міхайлаўскага сабора, дзе яна заказвала паніхіду па бязвінна забітых, былі вельмі здзіўлены яе зваротам. Як высветлілася, у гэты храм з падобнай прапановай ніхто з грамадзян ніколі яшчэ не звяртаўся.

*Працяг на стар. 2.*


*У памяць расстраляных у Курапацкім лесе родзічаў.*

АД СЕРАДЫ ДА СЕРАДЫ

### ПАВЫШЭННЕ

**Мінфін унёс на разгляд у Савет Міністраў прапанову аб чарговым павышэнні мінімальнай заработнай платы. Згодна з прадстаўленым праектам, новы памер мінімальнай заработнай платы складзе 10.000 руб., а стаўка першага тарыфнага разраду ўзрасце да 19.000 руб. Павышэнне мінімальных ставак плануецца ажыццявіць з 1 снежня 2001г.**

### ПРАЕКТ

**У красавіку 2003 года ў мікраёне "Усход-1" пачнецца будаўніцтва новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Генеральным выканаўцам праекта выступае УП "Інстытут "Мінскпраект", а асноўную фінансавую нагрузку возьмуць на сябе Мінскі гарадскі і абласны выканкамы. Паводле папярэдніх разлікаў "Мінскпраекта", будаўніцтва новай бібліятэкі будзе каштаваць 120 млрд. руб.**

### СТАТЫСТЫКА

**За 9 месяцаў гэтага года ў Бабруйску ўзбуджана 144 крымінальныя справы, звязаныя з наркотыкамі. Гэта на 75 працэнтаў больш, чым за адпаведны перыяд. Больш як 130 чалавек прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.**

### ІНФЛЯЦЫЯ

**Беларусь займае першае месца сярод краін СНД па абясцэньванні нацыянальнай валюты ў адносінах да долара. З часу распаду СССР беларускія грошы патаннелі ў 15.090.000 разоў. Наступнымі па тэмпах абясцэньвання грошай ідуць Туркменістан — у 2,6 млн. разоў, Грузія — у 2 млн., Украіна — у 0,5 млн. Найменш у адносінах да долара ЗША патаннелі грашовыя адзінкі Літвы, Латвіі і Эстоніі.**

### КРЭДЫТ

**Дамова аб выдаткаванні Беларусі крэдыту на 70 млн. долараў будзе падпісана з Расіяй да канца гэтага года, заявіў міністр фінансаў краіны Мікалай Корбут. Сёлета беларускі бок спадзяецца атрымаць 30 млн. долараў, а ў наступным годзе — 40 млн.**

***

**На пачатку гэтага года Нацбанк адклікаў у "Белкамбанка" ліцэнзію на права ажыццяўлення банкаўскіх аперацый у сувязі з невыкананнем банкаўскага заканадаўства. Збанкрутаваны "Белкамбанк" на гэтым тыдні мае намер пачаць выплаты крэдыторам і ўкладальнікам. Фізічныя асобы атрымаюць па 15% сум — усяго ім будзе вернута трэцяя частка ўкладаў.**




**Недзяржаўную газету "Брэсцкі кур'ер" больш не друкуюць. Падставай стала папярэджанне, атрыманае рэдакцыяй ад Дзяржкамдруку за змешчаны напярэдадні выбараў зварот: "Спыніце цкаванне дэмакратычных кандыдатаў у прэзідэнты РБ!". Дырэктар Васіль Каленікаў друкарні заявіў, што можа ўзнавіць выпуск газеты толькі пасля пісьмовага дазволу ўпраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкама.**

# У "КУЦЕЙНЫ" КАНФІСКАВАЛІ КАМПУТАРЫ

**30 кастрычніка рэдактар аршанскай незалежнай газэты "Куцейна" цалкам выпадкова даведаўся, што ўжо тыдзень таму ў ягоную адсутнасьць на судовым пасяджэньні судзьдзя прыняла рашэньне канфіскаваць 4 рэдакцыйныя кампутары ды рызограф на карысьць дзяржавы.**

Рэдакцыя аршанскай недзяржаўнай газэты "Куцейна" разам зь іншымі незалежнымі беларускімі выданьнямі падпала пад жнівеньскія рэпрэсіі супроць вольных СМІ. Тады падчас ператрусу міліцыянты забралі, кажучы афіцыйнай моваю, "да высьвятленьня акалічнасьцяў", чатыры рэдакцыйныя кампутары ды рызограф. І ад тае самае пары рэдактар "Куцейны" Віктар Андрэеў чакаў позвы ў суд, каб абараніць маёмасьць.

Позва прыйшла толькі ў суботу 20 кастрычніка а 18-й вечара. Згодна зь ёй, суд быў прызначаны на панядзелак 22 кастрычніка. Па словах Віктара Андрэева, ён ня меў магчымасьці ні знайсьці абаронцу (бо адпаведныя ўстановы ў нядзелю не працуюць), ні адмяніць важную паездку, запланаваную якраз на панядзелак. Таму з раніцы 22 кастрычніка, згодна з усімі патрабаваньнямі заканадаўства, ён падаў у суд заяву з просьбаю перанесьці пасяджэньне. Заяву прынялі, але новую дату не прызначылі. Калі ж 30 кастрычніка Віктар Андрэеў разам з абаронцам Алегам Граблеўскім прыйшлі ў суд, каб пазнаёміцца з матэрыяламі справы, судзьдзя Алена Дзямешчанка заявіла, што судовы працэс ужо адбыўся ў прызначаны дзень 22 кастрычніка ў іхную адсутнасьць, і што абвінавачаны ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасьці Віктар Андрэеў мусіць сплаціць штраф у памеры 20-ці мінімальных заробкаў (гэта складае 150 тысячаў рублёў або каля $ 100). А кампутары ды рызограф, згодна з пастановаю суда, канфіскаваныя на карысьць дзяржавы.

Неспадзявана для сябе рэдактар "Куцейны" даведаўся таксама, што на яго была заведзеная і крымінальная справа за парушэньне Дэкрэту аб гуманітарнай дапамозе. На сёньняшні дзень яна ўжо закрытая, хаця ні на водзін допыт сп. Андрэева не выклікалі.

Юрыст Вольнага прафсаюзу Алег Граблеўскі, які меркаваў абараняць Віктара Андрэева, заўважыў судзьдзі, што яна парушыла, правёўшы працэс у адсутнасьць падсуднага, усе магчымыя нормы працэсуальнага ды матэрыяльнага права. На што Алена Дзямешчанка заявіла, што інача́й не ўкладалася ў вызначаныя тэрміны.

Віктар Андрэеў ды Алег Граблеўскі абскардзілі вынесены прысуд, а таксама дзеяньні судзьдзі, падаўшы заявы ў Віцебскі абласны суд, абласную пракуратуру ды Міністэрства юстыцыі.

Дарэчы, рэпрэсіі супроць аршанскіх незалежных журналістаў закранулі апошнімі днямі не аднаго толькі Віктара Андрэева. На мінулым тыдні, спадзеючыся на адсутнасьць гаспадара, невядомыя людзі ўзламалі дзьверы ў кватэру журналіста "Куцейны" Юрася Копціка. А высьветлі́ўшы, што гаспадар дома, назваліся супрацоўнікамі Аддзелу па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю, але санкцыю наператрус не прадставілі ды зламаныя дзьверы рамантаваць адмовіліся. (*Пасляператрусу Юрась Копцік зьвярнуўся са скаргай на незаконныя дзеяньні праваахоўнікаў у Аршанскую гарадскую пракуратуру.* – **Рэд.**).

Яшчэ адной ахвяраю ўзломшчыкаў стаўся Алесь Сярожкін, рэдактар газэты "Беларускі калекцыянэр", што выдаецца ў Воршы. У ягоную адсутнасьць невядомыя зламалі дзьверы ды правяліператрус на ягоным лецішчы.

**(Па матэрыялах "Радыё Свабода". Захавана мова арыгінала).**




***На фота:*** *Віктар Андрэеў* (злева) *і Алег Граблеўскі падчас прэс-канферэнцыі з нагоды канфіскацыі аргтэхнікі. Жнівень, 2001 г.*

# Святлана ЗАВАДСКАЯ не давярае суду

**Святлана Завадская заявіла пра недавер суддзі Аляксандру Сіманаву, які разглядае справу аб выкраданні яе мужа, тэлеаператара ГРТ Зміцера Завадскага.**

На мінулым тыдні, 1 лістапада, аднавіўся судовы працэс над чатырма абвінавачанымі.

Нагадаем, што 5-дзённы перапынак у судовым працэсе быў выкліканы дрэнным станам здароўя аднаго з падсудных, якога следства лічыць арганізатарам злачыннай групоўкі – Валерыя Ігнатовіча. Былы спецназавец адмаўляе абвінавачанне ў выкраданні Завадскага і праводзіць у зняволенні галадоўкі пратэсту. Суд па просьбе пракурора прыняў рашэнне адправіць Ігнатовіча на лячэнне. Аднак, як сведчаць відавочцы, яго стан не змяніўся – Ігнатовіч у судзе па-ранейшаму ляжыць на лаве. З-за другога абвінавачанага, былога курсанта Акадэміі МУС Сяргея Савушкіна, які заяўляў, што кепска чуе, у зале усталёўвалі мікрафоны і гукаўзмацняльную калонку.

Святлана Завадская ў другі раз падала хадайніцтва, каб на працэс дапусцілі грамадскага абаронцу. Яна патлумачыла, што выхоўвае непаўнагадовага сына, і ёй цяжка бываць на ўсіх пасяджэннях. Таму для паўнавартаснага ўдзелу ў судзе ёй патрэбны ўласны прадстаўнік. Але суд палічыў, што жонцы і маці Зміцера – Вользе Рыгораўне, дастаткова аднаго адваката на дваіх, і хадайніцтва было зноў адхілена. Недавер Аляксандру Сіманаву, які старшынствуе на працэсе, выказаў і абвінавачаны Аляксей Гуз, але і яго прэтэнзіі суд не палічыў абгрунтаванымі.

Святлана і Вольга Рыгораўна Завадскія выступілі на судзе са сведчаннямі, якія не "ўкладаюцца" ў версію следства. Паводле прыведзеных імі фактаў, атрымліваецца, што Зміцер, хутчэй за ўсё, знік у аэрапорце "Мінск-2", а не па дарозе туды. Але ж бясследна прапасці ў месцы, якое пільна ахоўваецца міліцыяй, на вачах наведвальнікаў і супрацоўнікаў аэрапорта падаецца малаверагодным. Як раней расказвала Святлана, калі да яе першы раз завіталі следчыя, яны пацвердзілі, што былі сведкі выкрадання яе мужа. Пазней праваахоўнікі адмовіліся ад сваіх слоў. Міністр МУС Уладзімір Навумаў таксама запэўніў Вольгу Рыгораўну, калі яна была ў яго на прыёме ў мінулым годзе, што Зміцер прыехаў на машыне ў аэрапорт сам. Чаму зараз сцвярджаецца адваротнае?

Суд па-ранейшаму праходзіць у закрытым рэжыме. Пра тое, што адбываецца за зачыненымі дзвярыма, журналістам даводзіцца даведвацца з вялікімі намаганнямі. Суддзі не стамляюцца нагадваць удзельнікам працэсу пра крымінальную адказнасць за разгалошванне звестак аб тым, як праходзяць пасяджэнні. Але такая суперсакрэтнасць выклікае ўсё большы недавер да разгляду гучнай справы.

# Антыфашыстаў пакаралі

**Штрафы і арышты атрымалі маладыя людзі, што 26 кастрычніка ўшанавалі памяць закатаваных фашыстамі падпольшчыкаў у 1941 годзе.**

Як мы ўжо паведамлялі, міліцыянты і амапаўцы схапілі прыйшоўшых ускласці кветкі і паставіць свечкі да муроў мінскай турмы на вуліцы Валадарскага, адкуль падпольшчыкаў 60 гадоў таму вывелі на смяротнае пакаранне. Затрыманых, сярод якіх былі пераважна маладафронтаўцы, даставілі ў міліцыю, восем з іх пасадзілі да суда за краты.

Суды пакаралі маладых людзей штрафамі ў 150 мінімальных заробкаў (1.125.000 рублёў ці 750 долараў) ці трыма суткамі арышту, які затрыманыя фактычна ўжо адбылі да суда ў спецпрыёмніку-размеркавальніку. Моладзь, якая намагалася аддаць даніну павагі закатаваным падпольшчыкам, улады абвінавацілі ў правядзенні несанкцыянаванага шэсця.

Лідэру Маладога Фронту Паўлу Севярынцу прызначылі 10 сутак арышту. З улікам трох сутак "адсідкі", яму давядзецца правесці ў спецпрыёмніку на вуліцы Акрэсціна яшчэ 7 дзён. Зважаючы на стан здароўя Паўла, які перад тым адбыў у зняволенні 10 сутак за акцыю "МАЗ – беларускі!" і выйшаў на свабоду літаральна 26 кастрычніка, суд адтэрмінаваў адбыванне пакарання на 2 тыдні.

Нягледзячы на расправы, Малады Фронт з гэтага часу збіраецца адзначаць 26 кастрычніка як Дзень змагароў з фашызмам і правесці ў наступным годзе агульнанацыянальную акцыю, прысвечаную гэтай падзеі.

Маладафронтаўцы звярнуліся таксама ў Пракуратуру РБ з патрабаваннем узбудзіць крымінальныя справы супраць канкрэтных арганізатараў разгону антыфашыстаў – афіцэраў мінскай міліцыі і АМАПа. У заяве гаворыцца, што для захопу мірнай моладзі ў праваахоўнікаў не было ніякіх законных падстаў, і міліцыянты перайшлі ўсе межы хамства і цынізму. Малады Фронт разаслаў інфармацыю аб падзеях 26 кастрычніка ў АБСЕ, Еўрапарламент, амбасады ўсіх дзяржаў, прадстаўленых у Мінску, а таксама ветэранскія арганізацыі Беларусі.

Сваё абурэнне разгонам моладзі выказалі вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы, у тым ліку паэты Артур Вольскі і Рыгор Барадулін, рэжысёр Юры Хашчавацкі, літаратар Карлас Шэрман.

# Азаронак у суд не з'явіўся

**1 лістапада ў судзе Першамайскага раёна сталіцы адбыўся разгляд позвы кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі аб абароне свайго гонару і годнасці да рэжысёра Юрыя Азаронка і Беларускага тэлебачання. Сумнавядомы аўтар прапагандысцкага серыяла «Тайные пружины политики» ў суд не з'явіўся.**

Нагадаем, што Азаронак у адной са сваіх перадач заявіў, што Анатоль Лябедзька прывёз з-за мяжы 10 тысяч долараў, якія яму быццам бы далі грантадаўцы "на барацьбу", прычым 8,5 тысячы з гэтай сумы лідэр АГП прысвоіў сабе. Анатоль Лябедзька падаў позву ў суд з патрабаваннем абвергнуць ілжывую інфармацыю і спагнаць з Азаронка кампенсацыю за маральную шкоду 15 мільёнаў рублёў (каля 10 тысяч долараў).

У прызначаны для разгляду позвы дзень Азаронак у суд не з'явіўся, папрасіўшы праз свайго прадстаўніка Генадзя Апанасенку разглядаць справу без яго. Анатоль Лябедзька не пярэчыў.

У судзе Генадзь Апанасенка заявіў, што відэазапіс перадачы Азаронка не захаваўся. Не змог ён патлумачыць і адкуль Азаронак "выкапаў" долары. Але відэакасету з запісам "Тайных пружин" прадставіў суду Анатоль Лябедзька, які далучыў да матэрыялаў справы і сваю мытную дэкларацыю, у якой памянёныя бэтэшным рэжысёрам долары ніякім чынам не фігуруюць. Пасля гэтага Генадзь Апанасенка нечакана заявіў, што неабходна, каб у суд з'явіўся Азаронак і сам усё патлумачыў. І хаця Анатоль Лябедзька і яго прадстаўнік у судзе Яўген Лабановіч не настойвалі на гэтым, суддзя Алена Ананіч усё ж палічыла неабходным выклікаць у суд аўтара "Тайных пружин".

Пакуль разгляд позвы адкладзены на няпэўны тэрмін. Суддзя абвясціла, што займацца гэтай справай больш не можа, бо кладзецца ў бальніцу.

Паводле словаў Анатоля Лябедзькі, ёсць два спосабы барацьбы з паклёпнікамі: "*набіць фізіяномію або спрабаваць узнавіць ісціну ў судовым парадку*". І хаця, на думку лідэра АГП, першы метад ва ўмовах Беларусі – самы справядлівы, але ўсё ж бесперспектыўны. Таму спадар Лябедзька і вымушаны звяртацца ў суд.

– *Пасяджэнне суда прынесла мне маральнае задавальненне,* – адзначыў Анатоль Лябедзька. – *Азаронак нават не рызыкнуў абараняць свой лжывы тэлесерыял.* Суд перанесены, па маім перакананні, зусім беспадстаўна. Відаць, для таго, каб знайсці суддзю, які пажадаў бы выконваць функцыю адваката лгуноў.

## ПРОГРАММА ТВ — ВТОРНИК, 13 НОЯБРЯ

**БТ**

15:00, 18.00, 0.35 Новости.
15:15 «Дэнни, расскажи мне историю». Док. сериал.
15:25 «Все на орбиту!». Сериал.
15:35 «Маленькие Эйнштейны». Сериал.
16:10 «Пять чудес».
16:20 «5 х 5».
17:00 «Страсти». Сериал (Италия).
18:20 Зона Икс.
18:30 «Москва - Минск».
18:45 Х/ф. «Дети на деревьях».
20:40 Колыбельная.
21:00 Панорама.
21:45 «Терминатор-2. Судный день».
24:00 Спорт-курьер.
0:10 Ток-шоу «Дела житейские».

**ОРТ**

08.00 Новости.
08.15 «Земля любви». Сериал.
09.15 «Следующий». 1-я серия.
10.20 «С легким паром!».
10.50 Библиомания.
11.00, 14.00 Новости.
14.15 Семь бед - один ответ.
14.35 Царь горы.
15.00 «Вечный зов». Сериал.
16.00 Большая стирка.
17.00 Вечерние новости.
17.25 Сериал «Ускоренная помощь».
18.00 «Земля любви». Сериал.
19.00 «Слабое звено».
20.00 Время.
20.35 «Следующий». 2-я серия.
21.40 Кремль-9. «Главный бастион».
22.30 Ночное «Время».
23.00 Цивилизация.
23.30 «Ночная смена».

**РТР**

08.15, 18.00 Сериал. «Московские окна».
10.00, 16.00, 19.00 Вести.
10.30 «Санта-Барбара». Телесериал.
16.30 Комедя «Раз на раз не приходится».
19.35 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Х/ф. «Маросейка, 12. Прощай, полицейский». 2001 г.
22.00 Вести + Подробности.
22.30 Местное время. Вести - Москва.
22.45 «Теракты в Америке: поиски причин».
23.40 Х/ф. «Сладкий и гадкий» (США).
01.25 Прогноз погоды.

**НТВ**

05.00, 05.30, 06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.05 Сегодня.
05.10, 06.20, 13.30, 17.40 Криминал.
05.20, 07.15 Впрок.
05.35, 06.40, 13.45 Афиша.
05.40, 07.25 Наши любимые животные.
05.45, 06.45, 07.45 Пять минут с Новоженовым.
05.50, 06.50 Большие деньги.
06.35, 07.40 Карданный вал.
07.55, 21.55 Сериал «Скорая помощь».
09.25, 20.00 Алчность.
10.10 Шоу Елены Степаненко.
11.25 Детектив «Полицейские». 2-я серия.
13.50 Сериал «Графиня де Монсоро».
15.30 Сериал «Салон красоты».
16.30, 18.55 Детектив «День рождения Буржуя-2».
18.35 Герой дня.
23.30 Гордон.

**КУЛЬТУРА**

07.05, 11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Новости культуры.
07.30 «Гобсек». Худ.фильм.
09.15 Золотой пьедестал.
09.40, 15.35 Документальный экран.
10.35 В вашем доме.
11.45 «Позови меня в даль светлую». Худ.фильм.
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 Дело житейское.
14.15 Власть факта.
14.30 Сценограмма.
15.10 «Готовы или нет». Сериал.
16.30 «Российский курьер».
17.00 Археология.
17.50 Дворцовые тайны.
18.15 «Будденброки». Сериал.
19.15 Портреты художников.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 «Тринадцать плюс». Академик Николай Семенов.
20.40 «Храбрец». Худ.фильм.
22.30 Форма.

**ТВ6**

05.45, 14.35, 17.40, 00.25 Дорожный патруль.
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00 Сейчас.
06.10, 06.40, 07.10 День за днем.
07.40, 20.35 Тушите свет.
07.50 Назло.
08.25, 18.45 Сериал «Тайны следствия».
09.25 «Без галстука».
10.25 «Забытый полк».
11.25 Катастрофы недели.
12.20, 14.25 Телемагазин в Минске.
13.15, 17.05, 22.40 «За стеклом».
14.55 100 чудес света.
16.30 Сериал «Самые громкие преступления XX века».
20.50 Сериал «Улицы разбитых фонарей II».
22.00 Грани.
23.30 «Без протокола».

**СТВ**

06.00 «Икс-мен». Мультсериал.
06.30 «Шкодливый пес». Мультсериал.
07.00 «Таинственные рыцари Тир На Ног». Сериал.
07.30 «Мурашки». Сериал.
08.00 Международные спортивные новости на СТВ.
08.15 Новости СНГ.
08.30 «Автопанорама».
08.45 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
08.50 «Виртуальный мир».
09.00 Фильм ужасов «Пауки - 2».
11.30 «Перекресток». Музыкально-развлекательная программа.
12.00 Новости СТВ.
12.15 «Случайный свидетель».
12.45 «Пятый угол». Сериал.
14.00 «Секретные материалы». Сериал.
15.00 Новости СТВ.
15.15 Кулинарные рецепты от ресторана «Лесной».
15.30 «Мурашки». Сериал.
16.00 «Шкодливый пес». Мультсериал.
16.30 «Икс-мен». Мультсериал.
16.55 «Чертенок». Теленовелла.
18.00 Новости СТВ.
18.15 Международные спортивные новости на СТВ.
18.30 «Здравствуйте, доктор!».
18.45 «Автопанорама».
19.00 «Тема дня». Планерка в мэрии.
19.10 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
19.15 «Вечарніца».
19.30 Триллер «По следу маньяка».
21.40 «Пятый угол». Сериал.
23.00 Новости «СТВ-24 часа».
23.30 «Виртуальный мир».
23.45 Драма «Свет женщины».
01.50 «Ночной разговор с Алексеем Лушниковым».

**ТВЦ**

05.00, 06.30 «Настроение».
07.50 Газетный дождь.
08.05 «Тихие страсти Магдалены». Сериал.
09.05 Особая папка.
09.30 На безымянной высоте.
09.40 Телемагазин.
10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.00 События.
10.15, 22.45 Петровка, 38.
10.25 Телеканал «Дата».
11.15 Уроки русского.
11.35 «Момент истины».
12.30 Деловая Москва.
13.15 «Инспектор Кресс». Сериал.
14.20 Как добиться успеха.
15.30 Ступеньки.
16.15 Москва Гиляровского.
16.45 Я - мама.
18.50 Пять минут деловой Москвы.
19.15 Лицом к городу.
20.15 «Времена не выбирают». Телефильм.
21.15 Прогноз погоды.
21.20 «Тропой обреченных». Сериал.
22.15 Времечко.
23.20 Ночной полет.
23.55 «Открытый проект».
00.50 «Операция «Возмездие». Сериал.

